*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



**2017, № 12(22). Снежань**

# Вуліцы і будынкі Слоніма, 1915-1917 гады



Паглядзіце на гэтыя старыя фотаздымкі Слоніма, якія былі зроблены нямецкім вайскоўцам 100 гадоў таму і друкуюцца сёння ўпершыню. На іх адлюстраваны наш горад: вуліцы, будынкі, людзі. Па здымках бачна, як жылі нашы землякі, дзе яны начавалі, па якіх гарадскіх вуліцах хадзілі, у чым былі апрануты і абуты. Хаты і хляўчукі стаялі блізка адзін ля аднаго. Дахі дамоў былі накрыты саломай ці гантой, ці напалову тым і гэтым, альбо проста — дошкамі.

*Працяг на ст. 3.*

# З Калядамі і Новым годам!

Вось і настаў час развітацца з 2017 годам. Быў ён шмат для каго нялёгкім, няпростым. Але адначасова багатым на падзеі: пазітыўныя і негатыўныя, радасныя і сумныя, нават трагічныя. Слонім на працягу года рэгулярна трапляў у стужкі інфармагенцтваў. Відэазапіс з неспадзявана шматлюднай сакавіцкай вулічнай акцыі на YouTube набраў 130 тысяч праглядаў. Уся краіна была ў шоку ад абставін гібелі скульптара Леаніда Богдана. З'явілася надзея, што будзе адрэстаўраваная сінагога, помнік архітэктуры сярэдзіны XVII стагоддзя, і ў ёй з'явіцца музей. А вось абяцанага помніка старосце Льву Сапегу так і не дачакаліся. Сапраўднай падзеяй стала прывезеная з ЗША кінахроніка, зробленая ў нашым горадзе ў далёкім 1929 годзе. Пачалося добраўпарадкаванне набярэжнай Малога Агінскага канала ў межах Слоніма.

На працягу гэтага года разам з вамі, шаноўныя чытачы, быў гісторыка-краязнаўчы месячнік "Слонімскі край". Цяпер вы чытаеце ўжо 22-гі нумар нашага выдання ад пачатку яго выхаду ў лютым 2016-га. Мы стараемся цікава і даступна распавядаць пра далёкую і не вельмі мінуўшчыну нашага краю. Чытачы "СК" ужо пераканаліся, што яна багатая на падзеі, на асобаў, якія адыгрывалі заўважную ролю і ў нашай дзяржаве, і ў шэрагу краін замежжа. Здавалася, што мы ўжо шмат ведаем пра гісторыю Слонімшчыны, але пастаянна ўдаецца знаходзіць новыя, раней невядомыя факты, дакументы. Такія знаходкі рэгулярна трапляюць на старонкі "СК". Абяцаем, што і ў наступным годзе мы парадуем чытачоў цікавымі публікацыямі.

Ну, а пакуль у гэтыя святочныя дні мы віншуем землякоў, жадаем ім моцнага здароўя, дабрабыту, сямейнага шчасця. Няхай у 2018 годзе збудуцца вашыя мары, рэалізуюцца самыя смелыя планы, вырашацца праблемы. І дзе б вы не былі, як далёка не з'ехалі з роднай Слонімшчыны, яна заўсёды ў вашым сэрцы, у вашых снах і мроях. Малая радзіма не адпускае, кліча да сябе, дае сілы і натхненне. "Слонімскі край" — праваднік у гэтым працэсе, намагаецца навязаць сувязі са слонімцамі па ўсім свеце. Пішыце, дзяліцеся сваімі думкамі і меркаваннямі, успамінамі, яны з'явяцца на старонках "СК".

***Рэдакцыя***

ХРОНІКА

# Гармата каля ваенкамата



У лютым 2018 года каля ваенкамата ў Слоніме плануецца ўсталяваць савецкую артылерыйскую гармату — Д-44. Як піша сайт slonves.by, гэтае мерапрыемства мусіць быць прымеркавана да 100-х угодкаў Узброеных сіл. Адзначаецца, што згаданая гармата — “грозная зброя часоў Вялікай Айчыннай вайны”. Насамрэч яна прайшла дзяржаўныя выпрабаванні ў 1944-1945 гадах (не на фронце, на палігонах), але на ўзбраенне савецкай арміі 85-міліметровую дывізійную гармату прынялі толькі ў 1946 годзе.

# Слонім без помніка Льву Сапегу




*Над помнікам працаваў скульптар Іван Міско. Фота: sb.by*

На жаль, абяцанні мясцовых уладаў усталяваць у 2017 годзе ў Слоніме помнік Льву Сапегу (1557 — 1633), канцлеру ВКЛ, слонімскаму старосце, не былі выкананы. Найхутчэй праблема ў фінансах. Яе не ўдаецца вырашыць з 1990-х, калі і ўзнікла ініцыятыва ўсталявання ў нашым горадзе помніка Сапегу. Нагадаем, у канцы вясны сёлета было абвешчана, што для яго ўсталявання абрана пляцоўка ў скверы па Першамайскай вуліцы.

# У Марачоўшчыне будзе помнік Тадэвушу Касцюшку

У канцы восені стала вядома, што краўдфандынгавая кампанія, якую распачаў журналіст і грамадскі дзеяч Глеб Лабадзенка, аказалася паспяховай. Была сабрана патрэбная сума (больш за 17 тысяч рублёў) на помнік нацыянальнаму герою Беларусі, Польшчы і ЗША Тадэвушу Касцюшку (1746 — 1817). Дапамагла і фірма “Гранітны свет”. Помнік плануецца ўсталяваць у Марачоўшчыне каля Косава, дзе існуе музей Касцюшкі. Ён будзе чатырохметровы (180 см — гранітны пастамент, 220 см — скульптура). Неабходныя ўзгадненні ўжо атрыманыя.

# У крос-віктарыне “Ведай свой край” перамаглі “Чэкісты”




*Фота: slonves.by*

У зімовым этапе крос-віктарыны “Ведай свой край”, якую праводзіць слонімскі краязнаўца, журналіст, дэпутат раённага савета Васіль Афанасік, перамагла каманда з дзіўнай назвай — “Чэкісты”. Яна прадстаўляе медыцынскі каледж. Дарэчы, яго навучэнцы, якія склалі іншую каманду, занялі другое месца. А трэцяе дасталося дэбютантам “інтэлектуальна-спартыўных спаборніцтваў” камандзе педагагічнага калектыва ясляў-садка № 5. Як піша “Слонімскі веснік”, пераможцы атрымалі галоўны прыз — Кубак дэпутатаў.

Крос-віктарыны — выдатны праект. З яго дапамогай папулярызуецца сярод моладзі гісторыя роднага краю.

# Вуліцы і будынкі Слоніма, 1915-1917 гады



*Маставая вуліца (цяпер — Янкі Купалы).*

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Бліжэй да цэнтра горада вуліцы былі брукаваныя, меліся пешаходныя дарожкі. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Слоніме налічвалася больш за 2000 дамоў, у тым ліку каля 872 мураваных. На пачатак XX стагоддзя ў горадзе над Шчарай было 35 вуліц, дзве праваслаўныя царквы, два касцёлы, мячэць, сем сінагог (з іх тры мураваныя). Вуліцы, якія знаходзіліся далей ад цэнтра, у большасці сваёй былі вельмі вузкія, не аднолькавай шырыні па ўсёй адлегласці, нязручныя з-за сваёй крывізны. Кварталы не былі пранумараваны, многія з іх падзяляліся паміж сабой завулкамі, альбо пераходамі, не дасягаючымі і двух сажняў. Некаторыя кварталы Слоніма ўяўлялі сабой месцы сумных ці раскіданых без усякага парадку драўляных дамоў. Цэнтральныя вуліцы асвятляліся керасінакалільнымі ліхтарамі і лямпамі, іншыя — не асвятляліся. Праўда, 10 траўня 1914 года была прынята пастанова правесці ў горадзе электрычнае асвятленне.



*Ружанская вуліца.*

У гэты час у Слоніме дзейнічаў водаправод. А 22 лютага 1912 года ў горадзе з'явілася тэлефонная сетка.

Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Слоніме пражывалі каля 21 тысячы жыхароў. Але перад надыходам нямецкіх войск рускія казакі шмат слонімцаў выгналі ў бежанства. І падчас заняцця горада немцамі ў верасні 1915-га там засталася толькі палова яго жыхароў…

Бежанства і вайна прынеслі шмат шкоды старажытнаму Слоніму. Але горад выстаяў і гэтыя фотаздымкі нагадваюць пра той далёкі і няпросты час.

●***Сяргей Чыгрын***

*Працяг на ст. 4-6.*

# Пра камандзіра 117-га Яраслаўскага палка

“СК” распавядаў пра генерал-маёра рускай арміі Міхаіла Расійскага, камандзіра 118-га Шуйскага пяхотнага палка, які пахаваны ў Слоніме на Ружанскіх могілках.* У тым жа сектары ёсць магіла і камандзіра 117-га Яраслаўскага пяхотнага палка** Адама Іванавіча Горскага.

На помніку на магіле Горскага не пазначана яго вайсковае званне. Згадваецца дата смерці — 22 снежня 1903 года. Вось і ўсё. Публікацыі пра Яраслаўскі полк вельмі схематычныя, спісы камандзіраў няпоўныя. Адама Горскага ў іх няма. Таму пакуль невядома, з якога года ён камандаваў палком. Ёсць інфармацыя, што да лістапада 1895-га камандзірам быў палкоўнік Уладзімір Бухгольц, а ў 1903-1904 гадах — палкоўнік Леанід Суліма-Самуйла. Верагодна, палкоўнікам быў і Горскі.

У рускай царскай арміі было нямала афіцэраў з дваранскага роду Горскіх (ён паходзіў з былой Рэчы Паспалітай). Вядомы Іосіф Іванавіч Горскі (1850 — 1905), генерал-маёр, герой руска-турэцкай вайны 1877-1878 гадоў. Брат? Зусім магчыма. Ён, дарэчы, служыў у асноўным на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі, камандаваў палкамі, брыгадамі. Генералам стаў у 1901 годзе. А яшчэ былі палкоўнікі Чэслаў Іванавіч Горскі (1867 — пасля 1916) і Уладзімір Іванавіч Горскі…

Варта сістэматызаваць інфармацыю пра вядомых людзей, пахаваных у Слоніме і ў раёне. Гэтая праца была б вельмі карыснай, у тым ліку і для людзей, якія займаюцца пытаннямі турызму.

**●СЁ**

**СЁ. Пра генерал-маёра Міхаіла Расійскага // Слонімскі край, 2017, № 8(18). Жнівень. С. 20.*

**Абодва падраздзяленні дыслакаваліся ў нашым горадзе ў канцы XIX — у пачатку XX стагоддзя.*






# Слонімскі гісторыка-краязнаўчы каляндар на 2018 год. Асобы



*Слонімскае Замчышча, восень 2016-га. Фота Сяргея Ярша.*

1 студзеня — **70** гадоў з дня нараджэння беларускага кампазітара, педагога, прафесара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі **Уладзіміра Дарохіна**. Нарадзіўся ў Слоніме. Жыве ў Мінску.

1 студзеня спаўняецца **60** гадоў з дня нараджэнння слонімскага журналіста і краязнаўца **Васіля Афанасіка**. Жыве ў Слоніме.

2 студзеня — **70** гадоў з дня нараджэння беларускага паэта і педагога **Уладзіміра Весялухі**. Нарадзіўся ў вёсцы Новадзявяткавічы. Жыў і памёр у Вілейцы.

15 студзеня — **50** гадоў з дня смерці **Язэпа Стаброўскага** (1870 — 1968), слонімскага археолага, краязнаўца, вайскоўца, заснавальніка раённага краязнаўчага музея.

8 лютага — **125** гадоў з дня нараджэння беларускага ўніяцкага святара, царкоўнага дзеяча, вязня савецкіх і нацысцкіх лагераў **Антона Неманцэвіча.** Нарадзіўся ў Санкт-Пецярбургу. Працаваў у Слоніме, Альбярціне, Сынковічах.

1 сакавіка — **75** гадоў з дня нараджэння беларускага і французскага опернага спевака **Аркадзя Валадося.** Нарадзіўся ў вёсцы Какошчыцы. Жыве ў Парыжы (Францыя).

6 сакавіка — **135** гадоў з дня нараджэння беларускага мовазнаўцы, педагога, аўтара “Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны” (выйшаў пасля смерці ў 1970 годзе) **Янкі Бялькевіча**. Нарадзіўся ў вёсцы Варонічы.

25 сакавіка — **65** гадоў з дня нараджэння слонімскага доктара і грамадска-палітычнага дзеяча **Івана Шэгі** (1953 — 2016). Нарадзіўся на Навагрудчыне, жыў і памёр у Слоніме.

5 красавіка — **90** гадоў з дня нараджэння царкоўна-грамадскага дзеяча на эміграцыі **Барыса Данілюка**. Родам з вёскі Сурынка. Памёр і пахаваны на беларускіх могілках у штаце Нью-Джэрсі (ЗША).

5 красавіка — **100** гадоў Герою сацыялістычнай працы **Марыі Несцер** (1918 — 1989). Нарадзілася ў вёсцы Хмяльніца.

14 красавіка — **80** гадоў з дня нараджэння беларускага філосафа, педагога, кандыдата філасофскіх навук **Аляксея Таўлая.** Нарадзіўся ў вёсцы Ганькі.

14 красавіка — **105** гадоў з дня нараджэння **Івана Дабрыяна**, актыўнага дзеяча ў Заходняй Беларусі, вязня польскіх турмаў, дэпутата Народнага сходу Заходняй Беларусі, арганізатара партызанскага руху падчас вайны, былога старшыні Слонімскага райвыканкама. Яго імем названа адна з вуліц Слоніма. Нарадзіўся ў вёсцы Какошчыцы.

20 красавіка — **260** гадоў з дня нараджэння **Іасафата Булгака** (1758, Слонімскі павет — 1838), рэлігійнага дзеяча. Быў мітрапалітам грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі ў 1817-1838 гг.

3 траўня — **90** гадоў з дня нараджэння піянера-героя са Слонімшчыны **Васі Крайняга** (1928 — 1944). Яго імем названа адна з вуліц Слоніма, ёсць мемарыяльная шыльда.

10 траўня — **80** гадоў з дня нараджэння заслужанага трэнера Беларусі са Слоніма **Генадзя Вількіцкага**.

21 траўня — **120** гадоў з дня нараджэння **Кастуся Кіслага** (1898 — 1980), музыканта, кампазітара, дырыжора. Памёр і пахаваны ў Беластоку.

22 траўня — **70** гадоў з дня нараджэння беларускага жывапісца **Мікалая Бушчыка.** Нарадзіўся ў вёсцы Дзераўная. Жыве ў Слоніме.

10 чэрвеня — **60** гадоў з дня нараджэння беларускага гісторыка і педагога **Лілii Бярэйшык**. Нарадзілася ў вёсцы Драпава.




*Плошча Льва Сапегі ў Слоніме, верасень 2015 г. Фота Аляксандра Ярша.*

11 чэрвеня — **60** гадоў з дня нараджэнння слонімскага журналіста, рэдактара “Газеты Слонімскай” **Віктара Валадашчука.** Жыве ў Слоніме.

12 ліпеня — **60** гадоў з дня нараджэння беларускага гісторыка і педагога **Паўла Лойкі** (1958 — 2010). Нарадзіўся ў Слоніме. Памёр у Мінску.

15 ліпеня — **115** гадоў з дня нараджэння **Алены Лябецкай** (1903 — 1982), дзеячкі нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Была рэпрэсавана польскімі і савецкімі ўладамі.

30 ліпеня — **60** гадоў з дня нараджэння беларускага гісторыка і археолага **Аляксандра Дабрыяна.** Нарадзіўся ў Слоніме.

4 жніўня — **60** гадоў з дня нараджэння слонімскага мастака **Яўгена Іванова**. Жыве ў Слоніме.

18 жніўня — **65** гадоў з дня нараджэння доктара філалагічных навук, літаратуразнаўцы, педагога **Антаніны Шалемавай**. Нарадзілася ў Слоніме. Жыве ў Маскве.

25 жніўня — **65** гадоў з дня нараджэння слонімскага мастака і скульптара **Леаніда Богдана** (1953 — 2017). Жыў і загінуў у Слоніме.

1 верасня — **125** гадоў з дня нараджэння савецкага і польскага вайсковага дзеяча, генерала **Уладзіслава Корчыца** (1893, в. Багданавічы — 1966, Масква).

16 верасня — **105** гадоў з дня нараджэння графіка і жывапісца **Навума Альперта**. Нарадзіўся ў Слоніме. Памёр на эміграцыі.

17 верасня — **120** гадоў з дня нараджэння **Паўла Крынчыка,** беларускага грамадска-культурнага дзеяча, актывіста ТБШ, вязня сталінскіх лагераў. Нарадзіўся ў вёсцы Едначы.

24 верасня — **60** гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка, гісторыка, краязнаўца і журналіста **Сяргея Чыгрына**. Нарадзіўся ў вёсцы Хадзявічы, жыве ў Слоніме.

# Слонімскі гісторыка-краязнаўчы каляндар на 2018 год. Асобы



*Fotolia*

*Працяг, пачатак на ст. 8-9.*

1 кастрычніка — **130** гадоў з дня нараджэння **Лукаша Дзекуць-Малея** (1888, Слонімскі павет — 1955, Гданьск, Польшча), беларускага грамадскага і рэлігійнага дзеяча, пратэстанцкага прапаведніка, перакладчыка на беларускую мову “Новага Запавета”.

3 кастрычніка — **90** гадоў з дня нараджэння беларускага дзеяча ў Бельгіі, кандыдата навук, гамеапата, аўтара шматлікіх публікацый і кніг па гамеапатычных даследаваннях **Лаўрэна Клыбіка**. Нарадзіўся ў вёсцы Хадзявічы. Памёр у Брусэлі (Бельгія).

29 кастрычніка — **80** гадоў з дня нараджэння беларускага літаратуразнаўца, фалькларыста, энцыклапедыста, бібліёграфа **Янкі Саламевіча** (1938 — 2012). Нарадзіўся ў вёсцы Малая Кракотка.

19 лістапада — **10** гадоў з дня смерці **Алега Лойкі** (1931 — 2008), паэта і навукоўца.

21 лістапада — **35** гадоў з дня нараджэнння беларускага спевака, кампазітара, паэта, дудара **Яўгена Барышнікава**. Нарадзіўся ў Слоніме, жыве ў Мінску.

17 снежня — **170** гадоў з дня нараджэння польскага і беларускага калекцыянера, мецэната, грамадскага дзеяча **Зыгмунда Пуслоўскага** (1848 —1913). Нарадзіўся ў Слоніме.

**240** гадоў з дня нараджэння **Юзафа Уладзіслава Быхаўца** (1778, в. Хмяльніца Слонімскага раёна — 1845, Вільня), пісьменніка, філосафа, перакладчыка.

**125** гадоў з дня нараджэння **Сямёна Жыткевіча** (1893, в. Вялікая Кракотка — 1940), беларускага грамадска-культурнага дзеяча. У 1927 г. арганізаваў беларускую бібліятэку імя Янкі Купалы ў в. Вялікая Кракотка. Загінуў у савецкім лагеры.

**90** гадоў з дня нараджэння **Мікалая Сідаровіча** (1928, в. Пятралевічы — 2003), педагога, краязнаўца, стваральніка музея “Літаратурная Слонімшчына” ў СШ № 7.

# Як расійскія ўлады знішчалі ў Слоніме архівы і бібліятэкі

Пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага 1863-1864 гадоў расійскія ўлады праводзілі “зачыстку” Беларусі ад іншадумцаў, як патэнцыйнай пагрозы іх панаванню ў краі. Небяспечнымі асяродкамі былі прызнаныя рыма-каталіцкія кляштары. Іх масава закрывалі. Нярэдка арганізоўвалі ў іх казармы ці шпіталі.

Гэты працэс закрануў і Слонімскі павет. У Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве захаваўся ліст былога слонімскага дэкана ксяндза Абаровіча, дасланы кіраўніцтву ў Вільню. На ім дата — 17 лютага 1866 года. Прыводзім яго са скарачэннямі і невялікімі праўкамі ў перакладзе на беларускую мову.*

“Рапарт

У Віленскую Р[ыма]-К[аталіцкую] Духоўную Кансісторыю, што ў выкананне даручэння, дадзенага ўказам з Кансісторыі ад 28 студзеня г[этага] г[ода] за № 713, які паследаваў па водгуку с[падара] начальніка Віленскай губерні ад 13 студзеня гэтага года, заснаванага на загадзе с[падара] галоўнага начальніка краю, датычна кляштароў закрытых і тых, што збіраюцца закрыць, а менавіта закрытых ужо па Слонімскім дэканаце, я нічога з патрабаванага вышэй згаданым указам Кансысторыяй падрыхтаваць і даставіць не магу. Бо ні кнігі прыходарасходныя, ні дакументы, ні Візіты ў маім дэканаце [ў] архіве не знаходзяцца і не былі мне перададзены, нават інвентарныя вопісы кляштароў мне невядома, куды былі прадстаўлены



і што аб гэтым павінны ведаць Візітатары кляштароў. У Слонімскім дэканаце закрытыя кляштары: 1) Дзярэчынскіх Дамініканаў, 2) Слонімскіх Дамініканаў, 3) Слонімскіх Канонікаў Латэранскіх, 4) Слонімскіх Бернардынаў, 5) Слонімскіх Бернардынак, 6) Слонімскіх Марыявітаў. Дзе гэтых кляштароў Акты, не невядома, і дзе цяпер яны знаходзяцца. Усе акты закрыцця было зроблена ўночы — грамадзянска-ваенныя чыноўнікі з атрадам войска без Духоўнага Дэпутата раскідвалі, разносілі, а куды што падзелі, невядома. Архівы тамтэйшыя і бібліятэкі знішчаныя, то як жа цяпер патрабаваныя акты я магу скласці […]”.

Чужыя ўлады нярэдка абыякава адносіліся да духоўных скарбаў нашага народу, знішчалі альбо рабавалі іх, вывозілі ў свае архіўныя і бібліятэчныя зборы. І каб цяпер вывучаць мінуўшчыну Слонімшчыны, давядзецца працаваць не толькі ў беларускіх архівах, але і планаваць паездкі ў Расію, Літву, Польшчу, Украіну.

●*Генадзь Гурскі*



ранскихъ, 4) Слонимскихъ Бернардиновъ, 5) Слоним-
скихъ Бенедиктинокъ, 6) Слонимскихъ Маріявитовъ
гдѣ этихъ Монастырей Акты мнѣ неизвѣстно,
гдѣ нынѣ таковыя находятся. Всѣ акты закрыт
было сдѣлано ночью – Чиновники Гражданско-Военны
съ отрядомъ Войска безъ Духовнаго Депутата, разбр
сывали, разносили, а куда что дѣли неизвѣстно. Архивы
тамошніе и библіотеки уничтожены, то какъ же ны-
нѣ требованные акты я могу составить – Равно пор
поступлено недавно съ Актами въ Декабрѣ Мѣсяцѣ 1865
года закрытого приходского Ольшевского Костела, котора
будто бы переданы въ Березу въ Пружанскій Уѣздъ, но
въ нынѣ мнѣ неизвѣстно. При томъ еще присовоку-
пляется, что требовано было Г. Военнымъ Начальни-

*Тэкст дакумента і яго фотакопіі былі апублікаваны тут: http://berezakartuska.livejournal.com/53758.html

# Першыя каналы ў Слоніме капалі на загад Льва Сапегі

Існуюць розныя погляды наконт таго, як у сярэднявеччы выглядала Шчара ў Слоніме. У кнігу "Дзеі над Шчарай" Васіль Супрун змясціў уласнаручна зробленую рэканструкцыю схемы горада ў XIV стагоддзі.[1] На ёй бачым, што ў Шчары адно рэчышча, якое амаль адразу за цяперашнім Замчышчам паварочвае ў правы бок, а пасля зноў ідзе на поўнач міма першага слонімскага замку (ён быў на Замосці). Відаць, даследчык не быў упэўнены, што было менавіта так. Ёсць іншыя рэканструкцыі старажытнага Слоніма, выкананыя Супруном.[2] На іх бачым, што ў межах горада рака падзяляецца на два рукавы. Правы праходзіў міма першага замку (Ніжняга), левы — недалёка ад гарадзішча, на якім у XVI ст. пабудавалі другі замак (Верхні).

Відавочна, гэта былі здагадкі даследчыка, якія часткова грунтаваліся на археалагічных дадзеных.[3] Але як было на самой справе? Высветліць гэта без маштабных археалагічных раскопак практычна немагчыма. Аднак ёсць шэраг фактаў, пра якія варта згадаць. На карце Джаванні Антоніё Рыцы-Заноні, выдадзенай у 1772 годзе[4], бачым, што Шчара не падыходзіць ушчыльную да замку на левабярэжжы. У межах горада рака не прамая, ідзе хвалямі. Гэта больш нагадвае рэканструкцыю В. Супруна, на якой Шчара мае адно рэчышча.

Як пісаў Васіль Герасімчык, у 1760-1780-я гады ў Слоніме "вяліся працы па асушэнню багністых глебаў паабапал Шчары і выпростванню яе рукава ў межах горада". І пазней "гэты кавалак ракі атрымаў назву Малы Агінскі канал, даўжынёй 1054 м[етры]".[5]




*Леў Сапега, партрэт невядомага мастака, 1616 г.*

З гэтым можна пагадзіцца. Аднак з адной агаворкай. Магчыма, што яшчэ адзін рукаў Шчары, праз які пазней праклалі канал, быў зроблены задоўга да Агінскага, яшчэ пры слонімскім старосце Льву Сапегу (ён быў старостай у 1586-1605 гг.).

У "СК" ужо згадваўся дакумент ад 1594 года, падпісаны каралём і вялікім князем Жыгімонтам III, якім ён ухваляў запланаванае будаўніцтва ў Слоніме Львом Сапегам новага касцёла.[6] У ім згадваюцца некаторыя праекты, якія Сапега рэалізаваў у Слоніме. В. Супрун пісаў, што староста добраўпарадкаваў прызамкавыя вуліцы, прывёў у належны стан масты і дарогі, "былі насыпаны новыя грэблі і дамбы".[7] З каралеўскага дакумента даведваемся, што Львом Сапегам быў пабудаваны новы мост праз Шчару, а вуліца, якая ішла ад яго па левабярэжжы ў цэнтр называлася Новая Замкавая ([Старая] Замкавая вуліца была на Замосці, каля колішняга замку). Староста пабудаваў новыя млыны ў Віравішчу паміж Замосцем і Пятралевічамі, зрабіў вялікую сажалку (вадасховішча) каля іх. Для іх большай магутнасці

туды быў выканаены роў, па якім у Шчару была пушчана рака Іса (у дакуменце — Ісарока), якая да таго часу адным рэчышчам упадала ў яе ў раёне цяперашняга Баранавіцкага моста. Той канал яшчэ да Другой сусветнай вайны называлі Капаніцай г. зн. выкапаным. “А іншую раку Шчару пад горад і слонімскі замак равамі павярнуў і прынёс выгаду для замка і горада нашага слонімскага”[8], — чытаем у дакуменце.

Такім чынам, атрымліваецца, што пры Льву Сапегу Шчару наблізілі да “Верхняга замку” (на яго месцы цяпер “Замчышча” каля Опернай вуліцы). Верагодна, з мэтай выкарыстання як у абароне, так і ў гандлі. На жаль пакуль немагчыма сказаць, ці адпавядаў гэты канал Сапегі будучаму Малому Агінскаму каналу, ці гэта быў лакальны праект (напрыклад, да замку падводзілася вада для запаўнення равоў).

●***Сяргей Ёрш***

*[1] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 36.*

*[2] Ёрш С. Зноў пра першы слонімскі замак // Слонімскі край, 2017, № 3(13). Сакавік. С. 9.*

*[3] Часам у энцыклапедыях можна сустрэць такія дзіўныя сцверджанні: “На малюнку старога Слоніма відаць, што р. Шчара раней працякала каля падэшвы ўзвышанасці (там, дзе цяпер праходзіць вуліца Энгельса)”. Гл.: Археалогія Беларусі. Т. 3. — Мінск: Беларуская навука, 2000. С. 314. Які малюнак, якая вуліца Энгельса?!*

*[4] Ёрш С. Знойдзены планы слонімскага замка XVIII стагоддзя // Слонімскі край, 2017, № 5(15). Травень. С. 8.*

*[5] Герасімчык В. Малы Агінскі канал // Слонімскі край, 2016, № 2. Сакавік. С. 10.*

*[6] Слонімскі край, 2017, № 3(13). Сакавік. С. 10.*

*[7] Дзеі над Шчарай… С. 45.*

*[8] Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim. — Kraków, 2013. S. 49.*






Рэканструкцыя схемы Услоніма (Слоніма) XIV ст.

***Розныя варыянты рэканструкцыі старажытнага Слоніма, выкананыя Васілём Супруном.***




***Слонімскі замак на карце Джаванні Антоніё Рыцы-Заноні, 1772 г.***

# Споўнілася 70 гадоў з часу самага гучнага палітычнага забойства на пасляваеннай Слонімшчыне

Увечары 1 снежня 1947 года стрэлам праз акно была цяжка параненая старшыня Шылавіцкага сельсавета Ганна Іванаўна Кароль. Яе яшчэ паспелі завезці ў бальніцу ў Слонім, дзе яна і памерла праз некалькі гадзін… Час быў неспакойны, у Заходняй Беларусі хапала незадаволеных мерапрыемствамі савецкай улады. На лініі агню апынуліся найперш нізавыя савецкія і партыйныя работнікі, участковыя міліцыянеры. Але выпадак з Ганнай Кароль быў выключны, паколькі яна была яшчэ і дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Дагэтуль матэрыялы крымінальнай справы аб забойстве Кароль не апублікаваныя. З-за гэтага з’явілася шмат версій, нават самых фантастычных. Разглядаць іх у гэтым артыкуле не будзем. Пачакаем публікацыі архіўных дакументаў. Спадзяемся, з іх даведаемся, што асуджаны за забойства быў вінаваты чалавек, а не выпадковы.

У розных даведніках, кнігах нават няма дакладнай даты нараджэння Ганны Кароль, толькі — 1902 год. Сёлета былі 115-я ўгодкі з дня яе нараджэння. А нарадзілася яна ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна ў сялянскай сям’і. З дзяцінства працавала на зямлі. У сярэдзіне 1920-х сяляне актыўна змагаліся за свае правы, выступалі супраць мерапрыемстваў польскіх уладаў. А вёскі ў той час былі шматлюдныя. У 1927 годзе была забаронена легальная Беларуская сялянска-работніцкая грамада. У выніку пачалі пашырацца ўплывы нелегальнай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У яе з 1925-га ўваходзіла і Кароль.

Ганна Іванаўна была вельмі актыўная, не хавалася за спіны іншых. Такіх польская паліцыя намагалася ізаляваць, зламаць у зняволенні. Кароль двойчы была ў турме (у 1928-1930 і 1933-1937 гадах) і аднойчы ў канцлагеры (у верасні 1939-га). Гэтыя выпрабаванні толькі ўмацавалі яе характар, веру ў ідэалы. Праўда, пасля ліквідацыі ў 1938 годзе КПЗБ, пасля ўсталявання восенню 1939-га савецкай улады і яе першых мерапрыемстваў у многіх былых камуністаўпадпольшчыкаў было расчараванне, якое прыводзіла да пасіўнасці. Ганна Кароль аднак актыўна ўсталёўвала на Слонімшчыне савецкую ўладу: ачольвала сялянскі камітэт у Чамярах, была старшынёй Парэцкага сельсавета.


*Ганна Кароль*

Летам 1941 года, калі пачалася вайна, яна адступала на ўсход, затрымалася ў Шклове. Там, дзе не ведалі пра яе савецкую працу, і перажыла гады нямецкай акупацыі, падтрымлівала сувязь з партызанамі і падпольшчыкамі. Калі Слонімшчыну вызвалілі, вярнулася. З 1944-га працавала старшынёй Шылавіцкага сельсавета. Наш край адбудоўваўся пасля вайны, людзям было цяжка жыць. І Ганна Кароль апынулася паміж двух агнёў: з аднаго боку ўлады патрабавалі паспяховай рэалізацыі сваіх мерапрыемстваў, а з іншага боку былі людзі, за шчасце і дабрабыт якіх яна змагалася, сядзела ў турмах, але ў выніку атрымлівалася не зусім тое, пра што яна марыла. І тым не менш Ганне Кароль удавалася знаходзіць нейкі баланс. Людзі надзіва прыхільна ставіліся да яе. Яна была мясцовая, не прысланая з усходу. Відаць, аддавала ўсю сябе працы, прымала праблемы людзей блізка да сэрца.



У сакавіку 1947 года Ганну Кароль прынялі ў камуністычную партыю, тады ж яе абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Што змянілася пасля гэтага, ці не стала яна першачарговай мішэнню для “ворагаў савецкай улады”? Для якога-небудзь антысаветчыка было прасцей застрэліць гэтую жанчыну ў вясковай хаце, чым нейкага функцыянера ў Слоніме, дзе была і міліцыя, і дзяржбяспека, і войска. Але зноў жа паўтаруся: пачакаем, калі нарэшце з’явяцца публікацыі паводле крымінальнай справы.

Апошні раз быў на магіле Ганны Кароль на Ружанскіх могілках у Слоніме ў ліпені 2017-га. Выглядала яна не вельмі прывабна, бо зарасла пустазеллем. Альбо шэфства над ёй няма, альбо шэфы вельмі занятыя людзі.

●*Сяргей Ерш*

Пахаванне Ганны Кароль на Ружанскіх могілках.




Развітанне верагодна прайшло ў Народным доме.

# Кнігі генерала Леаніда Мальцава






Генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў — наш зямляк. Нарадзіўся ён на Слонімшчыне ў вёсцы Вяценеўка ў 1949 годзе. Двойчы прызначаўся Аляксандрам Лукашэнкам міністрам абароны Рэспублікі Беларусь (1995-1996 і 2001-2009), быў дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі (2009-2013), старшынёй Дзяржаўнага памежнага камітэта (2013-1016). Цяпер Леанід Мальцаў працуе ў Мінску прарэктарам па інавацыйнай і навуковай працы Міжнароднага ўніверсітэта "Міжнародны інстытут працоўных і сацыяльных адносін".

У 2002 і 2003 гадах Леанід Мальцаў выдаў дзве свае кнігі на рускай мове, прысвечаныя вайсковай дысцыпліне і Узброеным Сілам Рэспублікі Беларусь. Першая кніга — "Дзейнасць органаў ваеннага кіравання па падтрымцы і ўмацаванню воінскай дысцыпліны". Яна прызначана для выкарыстання ў сістэме камандзірскай падрыхтоўкі генералаў і афіцэраў Узброеных Сіл, у прафесіянальнай падрыхтоўцы прафесарска-выкладчыцкага складу ваенна-вучэбных устаноў, а таксама ў працэсе навучання слухачоў ваенных акадэмій. Аўтар кнігі раскрыў метадалагічныя асновы і накірункі дзейнасці органаў ваеннага кіравання па падтрымцы і ўмацаванню воінскай дысцыпліны, ёсць там і пэўныя рэкамендацыі.







Другая кніга з'яўляецца даволі сур'ёзнай працай — "Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь. Гісторыя і сучаснасць". Праўда, гісторыю беларускага войска генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў распачынае не з далёкай мінуўшчыны, а з Другой сусветнай вайны, з урокаў вайны ў кантэксце сучасных задач рэфармавання Узброеных Сіл. Прыводзіць аўтар і статыстыку: "гітлераўцы знішчылі 2 мільёны 220 тысяч чалавек, 380 тысяч вывезлі ў рабства, больш за 800 тысяч байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі-беларусаў загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны".

Аўтар кнігі шырока асвятляе і сучасныя Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь. Ён піша пра іх рэфармаванне, пра вайсковыя вучэнні "Нёман" і "Беразіна", пра значэнне "маральнага фактару ў вырашэнні задач сучаснага ваеннага будаўніцтва" і г. д.

Кнігі нашага земляка выйшлі агульным накладам больш за 24 тысячы асобнікаў.

● *Сяргей Чыгрын*

# 205 гадоў таму ў Слоніме чакалі з'яўлення шпіёнаў і непрыстойных аб'яў з-за мяжы

Вясной 1812 года, напярэдадні ўварвання вялізнай арміі Напалеона ў межы Расійскай імперыі, у Гродзенскай губерні было трывожна. Расійскія ўлады разумелі ўсю небяспеку сітуацыі — наяўнасць знешняга ворага і непрыхільнае стаўленне мясцовай эліты, якая па-ранейшаму марыла пра аднаўленне ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Губернатар Васіль Ланской рассылаў у паветы разнастайныя распараджэнні, якія падпісваў коратка: "сенатар Ланской".

17 красавіка 1812-га губернатар піша слонімскаму земскаму спраўніку (начальніку паліцыі): "Па дакладных звестках з-за мяжы вядома, што нядаўна адпраўлены ў нашыя межы два лазутчыкі".* Аднаго з іх, паліцэйскага камісара Гейбаха, адправіў з Кенігзберга мясцовы камендант генерал-маёр Ёрк. Шпіёну было каля 40 гадоў. Гэта быў мужчына моцнага целаскладу, добра гаварыў на польскай мове. Другі — падпалкоўнік французскага войска Шэнбек. З Гданьска яго адправіў у Расійскую імперыю





*Гродзенскі губернатар Васіль Ланской.*

мясцовы генерал-губернатар Рон. Пры Шэнбеку быў ураджэнец Ліфляндыі Пфейфер, унцер-афіцэр, артылерыст.

На выпадак з'яўлення ў Слоніме ці ў павеце згаданых асоб, загаду на затрыманне не было. За імі трэба было старанна сачыць і тэрмінова інфармаваць губернатара пра іх заняткі. У той жа дзень Ланской выслаў у Слонім спраўніку сакрэтнае ўказанне пра збор "непрыкметным чынам" звестак, якія датычаць палітычнай сітуацыі.

2 чэрвеня 1812 года Васіль Ланской пісаў слонімскаму земскаму спраўніку: "Даручаю Вашаму Высокаблагароддзю звярнуць без найменшага агалошвання пільную ўвагу на тое, ці не маюцца ў кагосьці якія-небудзь непрыстойныя аб'явы, лісты з-за мяжы і падобныя паперы, і калі дзесьці такія знойдуцца, прадставіць іх мне, ужыць між тым строгія меры, каб яны не распаўсюджваліся".***

На жаль, невядома, ці сапраўды слонімцы мелі "непрыстойныя" адозвы з замежжа. Але клопаты губернатара былі запозненыя. Увогуле яго дзеянні ў тыя дні некаторыя даследчыкі характарызуюць, як нерашучыя. Асабліва ў справе эвакуацыі на ўсход каштоўнасцяў, архіваў. Але яшчэ 10 чэрвеня 1812 года, за два дня да пераправы войскаў Напалеона праз Нёман (усе даты падаюцца па старым стылі), Ланской у сакрэтным указанні слонімскаму земскаму спраўніку загадаў тэрмінова адправіць у Пскоў "усе сакрэтныя перапіскі, усе казённыя грошы і іншыя рэчы, якія казне належаць, а таксама і частку архіваў…, якія хаця б малое могуць даць разуменне пра зямлю".**** Эвакуацыі падлягалі розныя планы, геаграфічныя карты, інвентары маёнткаў, дадзеныя пра плацяжы падаткаў і г. д. Расійскія чыноўнікі меркавалі, што гэта значна абцяжарыць новым уладам правядзенне эканамічных мерапрыемстваў.

**●Генадзь Гурскі**

**Акты, издаваемые Виленской Комиссiею для разбора древнихъ актовъ. Т. XXXVII. Документы и матерiалы, относящiеся къ исторiи Отечественной войны 1812 г. — Вильна, 1912. С. 106.*

***Тамсама. С. 105-106.*

****Тамсама. С. 107.*

*****Тамсама. С. 107-108.*

СТАРЫЯ ВЫДАННІ

# Пагартаем “Związkowe Zarzewie”

Пра польскае выданне “Związkowe Zarzewie” (“Саюзны ачаг”) ёсць інфармацыя ў нашай з Сяргеем Яршом кнізе “Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны 1916 — 2016” (Мінск, 2016. С. 10-11). Такая газета выдавалася ў Слоніме з 1933 года. Гэта было выданне павятовага аддзела Саюза польскіх настаўнікаў.

Нядаўна адзін нумар гэтай польскай газеты для рэдакцыі “Слонімскага краю” перадала родная сястра паэта і навукоўца Алега Лойкі Людміла Антонаўна Клімовіч. Яна адшукала выданне ў сваім хатнім архіве. У 1930-х гадах сям’я Лойкі выпісвала “Związkowe Zarzewie”. Нумар 1-2 за лістапад-снежань 1938 года выйшаў пасля доўгага перапынку — паўтары гады газета не выходзіла, бо былі фінансавыя праблемы. Адноўлены нумар быў надрукаваны на 16 старонках.

“Związkowe Zarzewie” пачыналася артыкулам “Ад рэдакцыі”, дзе паведамлялася, што выданне аднаўляецца і яно будзе дапамагаць вырашаць многія пытанні польскіх настаўнікаў на тэрыторыі Слонімскага павета. А праблем з польскамоўнымі настаўнікамі і школамі на той час на Слонімшчыне існавала шмат. Яно і вядома ж, бо беларусы патрабавалі школ на роднай мове. Але Слонімшчына знаходзілася пад польскай уладай, таму трэба было тэрмінова вырашаць пытанні з польскім настаўніцтвам і адукацыяй. Гэта праходзіць праз увесь нумар. У Слоніме нават была створана камісія паразумення, якая павінна была абараняць польскіх настаўнікаў, вырашаць пытанні з “псіхікай слонімскай вёскі”, дзе бацькі не хацелі аддаваць дзяцей у польскія школы, дзе не хапала польскіх бібліятэк, народных дамоў, клубаў, што ў 21 выбарчую камісію не трапіла ніводнага настаўніка.


Rok VI Słonim, listopad-grudzień 1938 r. Nr. 1-2.

ZWIĄZKOWE ZARZEWIE

Pismo Oddziału Pow. Związku Nauczycielstwa Polskiego w Słonimie poświęcone sprawom organizacyjnym, oświatowym i społecznym.

Redaguje Prezydium Oddz. Pow. Z. N. P. Redaktor odpowiedzialny BOLESŁAW SZLĄZAK.

OD REDAKCJI.

Wznawiamy wydawanie „Związkowego Zarzewia". Półtoraroczna przerwa w wydawaniu go była przez nas wszystkich dotkliwie odczuwana i to odczuwana tym bardziej, że Organizacja nasza przeżyła chwile nad wyraz ciężkie. Z walki wyszliśmy wzmocnieni. Stwierdziliśmy, że zorganizowana gromada stanowi potęgę, potęgę tym większą, im bardziej zwarta jest ta gromada, im bardziej jest wyrobiona ideowo.

Teren naszego powiatu ma specyficzne warunki tak pod względem społecznym i gospodarczym, jak i pod względem politycznym. Sprawy polityczne nie wchodzą w zakres działalności Związku, dlatego też temu celowi „Zarzewie" służyć nie będzie, chociaż sprawy polityczne ściśle się wiążą z wszelkimi przejawami życia społecznego i gospodarczego.

W planie pracy naszej na bieżący rok zakreśliliśmy sobie wzmożoną pracę organizacyjną. „Zarzewie" musi być w tej dziedzinie tym czynnikiem, który będzie, poprzez wymianę myśli na ten temat, podnosił stan tych prac, będzie łącznikiem pomiędzy wszystkimi Związkowcami w powiecie. Pamiętajmy, że żaden przejaw życia organizacyjnego na terenie powiatu nie może iść w zapomnienie, nie może zginąć.

Jesteśmy dziś świadkami wzmożonego, niespotykanego dotychczas na naszym terenie parcia do oświaty. Liczba słuchaczy na kursach wieczorowych wzrosła prawie trzykrotnie w porównaniu z rokiem poprzednim. I to jest charakterystyczne dla przemian jakie zachodzą na wsi. Musimy zdawać sobie sprawę z przyczyn tego zjawiska, musimy porozumiewać się w tej sprawie, temu więc zagadnieniu „Związkowe Zarzewie" poświęcać będzie wiele miejsca.

Praca społeczna w powiecie opiera się wyłącznie na nauczycielstwie. Pracę tę dyskontują przeważnie inni, zapisują na swój rachunek. Musimy pamiętać o tym, że „Zarzewie" musi całą naszą pracę rejestrować, musimy wszystkim mówić, że to myśmy zrobili, a nie kto inny. Musimy przestać pracować dla innych, a zacząć pracować dla siebie.

Sprawy samorządowe znajdą na łamach „Zarzewia" również wiele miejsca, tym bardziej, że jak się spodziewamy, do samorządu wejdzie poważna liczba nauczycieli — tak do rad gromadzkich, jak i też do rad gminnych. Nie obojętne są nam również i sprawy gospodarcze powiatu. Chcemy i tym sprawom poświęcić łamy „Zarzewia".

Konsolidacja ruchu pracowniczego, w oparciu o deklarację ideowo-gospodarczą z dnia 10 września 1936 r. dokonała się. W Słonimie została zorganizowana Powiatowa Komisja Porozumiewawcza. Chcemy nawiązać między sobą jaknajściślejszy kontakt, chcemy poznać się wzajemnie. Dlatego też będziemy w „Zarzewiu" zamieszczać wiadomości z życia tych organizacyj, które w skład Komisji wchodzą.

I wreszcie „Zarzewie" będzie służyć obronie nauczyciela i szkoły. Są sprawy o zasięgu ściśle powiatowym, których nie mogą zamieszczać czasopisma centralne — znajdą więc one miejsce w „Zarzewiu".

Wzywamy więc wszystkich ludzi dobrej woli do współpracy z nami i wierzymy, że dopomogą nam do zrealizowania tych celów, jakie sobie postawiliśmy.

Газета пісала і пра тое, што на тэрыторыі Слонімскага павета не хапае польскіх школ. Напрыклад, у Дзявяткавіцкай гміне за 20 гадоў пабудавалі толькі адну школу, а трэба было пабудаваць ажно 13.

Ёсць інфармацыя на старонках газеты пра сядзібу Слонімскага павятовага аддзела Саюза польскага настаўніцтва. Гэтая сядзіба месцілася па адрасе: Слонім, вуліца Панятоўскага, 9 (цяпер — вуліца Пушкіна). Там можна было адпачыць, пагуляць у шашкі і шахматы, папіць гарбаткі ці кавы, абмеркаваць розныя пытанні.

Але найбольш “Związkowe Zarzewie” крытыкавала быт настаўнікаў, рабіла агляд школ, дзе вучыліся дзеці. А памяшканні не былі прыстасаваны для школ. Дзеці вучыліся ў звычайных вясковых хатах, дзе чуваць быў пах варанай капусты ці бульбы, якую таўклі свіням. Часам настаўнікі не маглі дабрацца да вёсак, бо не хапала матацыклаў, якія павінны былі быць раздадзены настаўнікам. Гэтыя і шэраг іншых праблемаў абмяркоўваліся на старонках “Związkowe Zarzewie” амаль 80 гадоў таму.

●*Сяргей Чыгрын*

НЕЗАБЫЎНАЕ

# Бежанства — трагічная старонка нашай гісторыі

*Заканчэнне, пачатак у № 6-11, 2017 г.*

**Бежанцы Слонімскага павета ў Томскай губерні (1915-1916 гады)**

208. **Саленка Ігн. Гр.**, 64 гады, жонка Алд., 64 гады, дзеці: Мік, 7 гадоў, Вол., 1 год, Ан., 8 гадоў. Прыехалі з Шылавіцкай воласці. Часова спыніліся ў Томскім павеце, у пасёлку Кір'якоўскі.

209. **Сашко Піліп Міхайлавіч**, 56 гадоў, жонка Анас., 40 гадоў, дзеці: Ул., 13 гадоў, Вл. 3 гады, Ан., 7 гадоў. Усе з вёскі Махначы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, пасёлку Валкадаеўскі.

210. **Сядлецкі Мікалай** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Акунінава. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

211. **Сыантовіч Кац. Мак.**, 24, Ір., 3 гады — з Азярніцы. Часова спыніліся ў Томску па адрасе: вуліца В.-Падгорная, 66.

212. **Сянкевіч Сямён Аўгустынавіч**, 34 гады, жонка Вольга, 36 гадоў, дзеці: Ів., 12 гадоў, Вол., 7 гадоў, Іосіф, 1 год. Прыехалі з вёскі Мыслава. Часова спыніліся ў Томскім павеце.

213. **Сігіневіч Рафаэль,** 67 гадоў, Лука, 35 гадоў, яго жонка Мар., 23 гады, дзеці: Мік., 5 гадоў, Вал., 4 месяцы. Прыехалі з Жыровіцкай воласці. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

214. **Сакалоўскі Антон Васільевіч,** з ім 2 чалавекі. Прыехалі з вёскі Мяльканавічы. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, у пасёлку Ціхаміраўскі.

215. **Сакалоўскі Іван Ос.,** Прыехаў з вёскі Мяльканавічы. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, у пасёлку Ціхаміраўскі.

216. **Сакалоўскі Трафім Анд.,** 54 гады, жонка Раіса Сільвестраўна, 48 гадоў, дзеці: Іван, 16 гадоў, Вольга, 13 гадоў, Надзея, 11 гадоў. Прыехалі з вёскі Мяльканавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, у вёсцы Баранава.

217. **Таманоўскі Ігнат Антонавіч**, 56 год, жонка Мар., 57 год, дзеці: Ал., 26 год, Анас., 24 гады. Прыехалі з Альбярціна. Часова спыніліся ў Томску.

218. **Турлай Ст. Карп.,** 37 гадоў, дзеці: Ст., 17 гадоў, Алена, 19 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

219. **Цішкін Мацвей Фаміч,** 42 гады, жонка Алена, 32 гады, дзеці: Яўг., 7 гадоў, Юл., 3 гады. Прыехалі з вёскі Моўчадзь. Часова спыніліся ў Томскім павеце, сяле Кераўскае.

220. **Цупрык Мір. Іл.,** 32 гады, жонка Алд., 19 гадоў. Прыехалі з вёскі Юхнавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

221. **Саламевіч Рыгор** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Пераналока. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

222. **Таракан Антон А.,** 31 год, дзеці: Сяргей, 6 гадоў, Надзя, 12 гадоў, Агр., 9 гадоў. Прыехалі з Жыровіцкай воласці. Часова спыніліся ў Марыінску.

223. **Тарэма Ева Сямёнаўна,** 45 гадоў, дзеці: Ст., 14 гадоў, Ів., 13 гадоў, Мік., 10 гадоў, Алс., 6 гадоў, Мар., 15 гадоў. Прыехалі з Жыровіцкай воласці. Часова спыніліся ў Марыінску.

224. **Сушко Кс. Піліп.,** 40 гадоў, дзеці: Алд, 14 гадоў, Ів., 11 гадоў, Мар., 6 гадоў. Прыехалі з вёскі Прыхілы. Часова спыніліся ў пасёлку Арлоўскі.

225. **Сядлецкі Мікалай** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Акунінава. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

226. **Турлай С. Сям.,** 44 гады, жонка Тац., 39 гадоў, дзеці: Тац., 15 гадоў, Ан., 13 гадоў, Мік., 8 гадоў, Ан., 7 гадоў, Вас., 4 гады. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

227. **Турлай Вас. Гр.,** 28 гадоў, жонка Алена, 27 гадоў, дзеці: Ант., 7 гадоў, Ів., 6 гадоў, Ант., 3 гады, брат Мікалай, 12 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

228. **Турлай Мікалай,** 44 гады, жонка Наталля, 44 гады, дзеці: Пят., 20 гадоў, Ак., 12 гадоў, Вера, 8 гадоў, Ст., 2 гады. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

229. **Турлай Міхаіл Ос.,** з ім прыехалі 8 чалавек. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

230. **Турок Іл. Амвр.,** з ім 4 мужчын і 2 жанчыны. Прыехалі з Альбярціна. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

231. **Шчэрня Параскоўя,** 50 гадоў. Прыехала з вёскі Махначы. Часова спынілася ў Томскім павеце, пасёлку Валкадаеўскі.

232. **Шчэрня Хрыст. Март.,** 30 гадоў, дзеці: Ан., 8 гадоў, Ліза, 5 гадоў, Ал., 5 гадоў, Вера, 3 гады, Мар., паўгады. Прыехала з вёскі Махначы. Часова спынілася ў Томскім павеце, пасёлку Валкадаеўскі.

233. **Чэпелеў Ст. Ів.,** 47 гадоў, жонка Ліза, 47 гадоў, дзеці: Ан., 18 гадоў, Соф., 10 гадоў, Ант., 6 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

234. **Шэцка Алена Ігнацьеўна,** 26 гадоў, дзеці: Пецця, 7 гадоў, Ард., 3 гады, Вера, 5 гадоў, Надзя. 2 гады, брат Іван. 15 гадоў. Прыехалі з вёскі Азярніца. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

Публікацыя

●*Сяргея Чыгрына*

ПОШТА

# Хачу прыгадаць слонімскіх мастакоў

Праз РУП "Акадэмічная кніга" у Мінску я набыў і з задавальненнем прачытаў кнігу "Слонімскія гісторыі" Сяргея Чыгрына. Сваю ўвагу ў кнізе засяродзіў на артыкуле "Зніклі "Мадэрн" і "Мір". Кінатэатры "Мір" і "17 Верасня" мне добра вядомыя і іх неаднаразова наведваў падчас вучобы ў школе № 1 на працягу 1961-1965 навучальных гадоў. Часта бачыў і памятаю дырэктара Шчарбакова Віктара. Ці жывы ён?..

Але хачу спыніцца на згадцы пра мастакоў Генадзя Зайцава і Канстанціна Бармашова-Аляксеева. Першы раз аднаго я ўбачыў недзе ў 1959 ці 1960 гадах, калі ён прывёз і ўсталяваў на сцяне Навасёлкаўскай сямігадовай школы, дзе ў той час я вучыўся, новую, цудоўна аформленую шыльду. Пазней, жывучы ў Слоніме, я даведаўся, што гэта быў мастак з кінатэатра "Мір". Неаднаразова бачыў, як ён устанаўліваў чарговы стэнд на новы фільм, які дэманструецца ў кінатэатры.Толькі прозвішча яго я не ведаў. Але слонімцы ведалі, што гэты чалавек быў вязнем нямецкага канцлагера, а на яго руцэ меўся вытатуіраваны лагерны нумар. Пра гэта ў той час аднойчы пісала газета "Вольная праца". Ці гэта ні адзін з прыгаданых мастакоў?

З павагай — **Міхаіл Саўко,** г. Барысаў

**Ад рэдакцыі**

Шчыры дзякуй Міхаілу Саўко за ліст. Нагадаем яму, што Віктару Міхайлавічу Шчарбакову нядаўна споўнілася 89 гадоў. Ён жыве ў Слоніме.

Што датычыць мастакоў, дык, сапраўды, Генадзь Зайцаў працаваў мастаком у кінатэатры "Мір". Яму часта дапамагаў Канстанцін Бармашоў-Аляксееў. Некалі адзін з іх намаляваў і падараваў карціну Віктару Шчарбакову "Пушкін на Каўказе". Дзе гэтая карціна цяпер, Віктар Міхайлавіч не ведае.



*Фота: Fotolia*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Слонімскія вучні, 1956 год



*Алег Падгарадзецкі, Ігар Дзідзала, невядомы вучань, Генадзь Падгарадзецкі.*

Гэтаму фотаздымку 61 год. Яго для нашага выдання перадаў былы выкладчык гісторыі, слонімец Ігар Падгарадзецкі, які цяпер жыве ў Германіі.

Паглядзіце на гэтых прыгожых слонімскіх хлопчыкаў. Іх сфатаграфавалі 1 верасня 1956 года. Хлопчыкі вучыліся ў СШ № 5 г. Слоніма. Тады вучні школ насілі вось такую школьную форму.

На гэтым старым здымку (злева направа) сфатаграфаваны Алег Падгарадзецкі, Ігар Дзідзала, невядомы вучань, Генадзь Падгарадзецкі. Дарэчы, Ігар Дзідзала быў сынам ваеннага хірурга, які служыў у мясцовай вайсковай часці.

●*Сяргей Чыгрын*

**"Слонімскі край"** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару *Сяргей Чыгрын*.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**

Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.